Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана 25 гр.
№ 2 Вільня, 25 Сьнежня 1933 г. Год I

# НОВЫ ШЛЯХ

Орган Беларускае Нацыянальна-Соцыялістычнае думкі

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Кальварыйская 16—2 (Wilno, Kalwaryjska 16 — 2). Рэдакцыя адчынёна штодня ад 10 да 3 г. дня.

„Новы Шлях“ выходзіць раз у месяц, каштуе на год 2 зл. 50 гр. на паўгоду 1 зл. 50 гр. на 3 месяцы 70 гр. Цана абвестак паводле ўмовы.



## СОЦЫЯЛІЗМ НА ВЁСЦЫ

Здавалася-б, што кожны соцыяліст ці камуніст — павінен выразна ўяўляць сабе як будзе выглядаць соцыялістычны лад, ня толькі ў горадзе, але і на вёсцы.

Трэба прызнаць, што пагляды ў гэтым паважным пытаньні, асабліва што датычыць аграрных адносінаў, сярод марксыстаў вельмі розныя і нават у многіх выпадках працівярэчныя адзін другому. Асновапаложнік сучаснага „навуковага“ соцыялізму К. Маркс у сваім т. III „Капіталу“, аналізуючы капіталістычныя формы сельскай гаспадаркі, гэтай справы не закранаў.

Асабісты прыяцель К. Маркса і першы папулярызатар ягонай тэорыі Ф. Энгельс таксама не распрацаваў аграрнага пытаньня, аднак, зусім выразна выказваецца проці стасаваньня прымусу пры ўтварэньні соцыялістычных адносінаў.

„Маючы дзяржаўную ўладу — кажа ён — мы ня будзем думаць пра тое, каб насільна экспропрыяваць дробных сялян... як гэта мы змушаны будзем зрабіць з абшарнікамі. Наша задача адносна дробных сялян палягае, перадусім, на тым, каб іхні прыватны выраб і прыватную ўласнасьць перавесьці на сяброўскую (арцельную), **але не прымусам, а за пасярэдніцтвам прыкладу** і прапазыкі грамадзкай дапамогі для гэтай мэты“.—(Фр. Энгельс, Крестьянскій вопрос во Франціі і Германіі стр. 63). Варта падкрэсьліць пры гэтай спасобнасьці — насколькі савецкія вучні Энгельса адышлі ад гэтых зусім слушных думак...

Амаль тое самае кажа і К. Каўцкі, каторы ў сваёй кнізе „Аграрнае пытаньне“ даводзіць, што найбольш дасканальнаю формаю сялянскай гаспадаркі будзе сябрына (арцель) куды дробны земляўласьнік пойдзе, як ён кажа, „з радасьцю“ калі толькі пераканаецца ў яе перавазе над індывідуальнымі формамі.

Кастрычнікавая рэвалюцыя ў Расеі паставіла пытаньне пра ўвядзеньне соцыялістычных адносінаў на вёсцы вельмі востра і вось тут пачалася запраўдная агульнадзяржаўная „неразьбяруха“, сьведкамі каторай мы зьяўляемся да сёняшняга дня.

У серадовішчы расейскіх камуністаў выявіўся поўны ідэолёгічны хаос у гэтым найпаважнейшым пытаньні, расколоўшы фактычна, камуністычную партыю на некалькі адламаў.

У той час як Ленін і некаторыя іншыя камуністы падыходзілі да гэтай справы (прынамсі ў тэорыі) з некатараю „культурнаю“ меркаю, даводзючы, напрыклад, што „соцыялізм на вёсцы — гэта ёсьць лад цывілізаваных коопэратараў“,—у іншых гэтакай „меркі“ мы не наглядаем зусім

Значная частка камуністычных правадыроў, як напрыклад Преображенскій, Троцкі і г. п. лічаць, што соцыялізм на вёсцы павінен быць уведзены прымусам, шляхам застасаваньня жорсткіх эканамічных і палітычных рэпрэсыяў, у выніку каторых селяніну нічога больш не заставалася-б, як самому „прасіцца ў камуну“, каб толькі пазбыцца розных прыкрасьцяў, злучаных з прыватнаўласьніцкім вядзеньнем гаспадаркі.



У справе адносінаў да вёскі і да мэтадаў увядзеньня там соцыялістычнага ладу ў лоне самай кампартыі даходзіла да вострых сутычак, у выніку каторых яна вычышчалася ад „ерэтікоў“, а гэтыя апошнія або раскаіваліся ў сваіх грахох, або садзіліся ў вастрогі і ехалі ў ссылку.

Нарэшце, зьяўляецца на савецкай арэне Сталін, каторы адкінуўшы ўсякія культурніцкія забабоны, з чыста каўкаскаю рашучасьцю вядзе справу пасвойму, у выніку чаго мы бачым цяпер прымусовую коллектывізацыю з яе брыгадзірамі і з усімі іншымі ад'ёмнымі бакамі, на каторых тут затрымлівацца ня будзем.

Не залічаючы савецкую прымусовую каллектывізацыю да праяваў запраўднага соцыялістычнага будаўніцтва і адпаведна яе расцэньваючы, — адначасна з тым мы павінны дакладна ўяўляць сабе — на чым, фактычна, палягае галоўная сутнасьць соцыялістычнага ладу вёскі.

Толькі тады мы пазбудземся небясьпекі зайсьці ў бязвыхадны тупік, у якім апынуліся марксысты.

Пад соцыялістычным ладам на вёсцы трэба разумець, перадусім, такі стан рэчаў, пры каторым земляробскае насельніцтва пазбылося-б усякай эксплёатацыі з якога-б боку, буржуазнага ці пролетарскага, яна не наглядалася.

Пры гэтым ладзе прыродныя сілы зямлі павінны разьвіцца да найвялікшай ступені, а само земляробскае насельніцтва па забясьпячэньні ўсіх сваіх матэрыяльных патрэбаў атрымлівае ўсе магчымасьці да карыстаньня з культурных багацьцяў.

Дабрабыт сялянства, ягоны духовы і культурны поступ нароўні з поступам іншых сяброў адзінай працоўнай сямьі — вось тое галоўнае, што нас цікавіць у новым ладзе, каторы мы акрэсьляем як коопэратыўна-коллектывістычны, ці інакш кажучы—соцыялістычны.

Гэтакі лад ёсьць нашым ідэалам, да каторага трэба імкнуцца, вядучы змаганьне з усімі перашкодамі—прыроднымі, эканамічнымі, грамадзкімі і іншымі, якія стаяць на шляху да ягонага зьдзейсьненьня.

Паскольку соцыялізм мусіць быць ладам ідэальным, тым самым да яго прыдзецца імкнуцца вечна, бо ніколі ня можна будзе лічыць, што мы дапялі накрэсьленай мэты.

У гэтым пастаянным працэсе культурнага і гаспадарчага разьвіцьця заўсёды перад намі будуць паўставаць новыя заданьні, каторыя і будуць вырашацца адпаведна вымаганьням хвіліны і жыцьцёвым абставінам. Вось чаму мы лічым сьмешнаю хвальбу савецкіх камуністаў, што яны ўжо зьдзейсьнілі соцыялістычны лад на вёсцы у той час, як яны здолелі толькі стварыць там прыгонныя формы гаспадараваньня, забіваючыя індывідуальныя здольнасьці людзей і затрымліваючыя разьвіцьцё іхніх духовых вартасьцяў.

Ніхто нам яшчэ не даказаў, што найбольш дасканальнымі формамі вясковага жыцьця зьяўляюцца тыя камуны і калгасы, якія заводзяць у Саветах камуністы. Мы лічым, што пачынаць увядзеньне соцыялістычнага ладу немагчыма ад грабяжа сялянскіх масаў.

Для тых каранных рэформаў, якія злучаны з рэканструкцыяю сялянскай гаспадаркі патрэбны ўступныя мерапрыемствы, а перадусім шырокая асьвета і грамадзкае ўзгадаваньне масаў без чаго ня будзе ніякіх дадатніх вынікаў.

Зусім зразумела, чаму гэта „соцыялістычнае будаўніцтва ў Саветах прыймае такія дзівачныя формы, калі нават афіцыяльны орган партыйнага камуністычнага актыву „Большевік“ і той змушаны быў прызнацца, што з 40.000 старшынь калгасаў „значная частка неграматных і ў літэральным і агранамічным сэнсе (а яны павінны быць кіраўнікамі буйнай сельскай гаспадаркі!) Пытаньне пра кадры запраўды крычыць і вымагае найнеадкладнейшага вырашэньня на практыцы“ (Большевік Н 7 — 1927 г.)

А колькі сярод гэтых 40.000 „кіраўнікоў“ пьяніц, гультаёў і наагул грамадзкіх адпадкаў—устанавіць ніхто не бярэцца.

Трэба прыйсьці да пераконаньня, асабліва ўзяўшы пад ўвагу савецкае дасьведчаньне, што ня толькі ў высокай ступені несправядлівым, але й шкодным з гаспадарчага пункту гледжаньня было-б пазбаўленьне сялянства ўласнасьці на прадукты ягонай працы і на варштат гэтай працы ў постаці зямлі, жывёлы і г. п. да тае прынамсь пары пакуль такая ўласнасьць узмацняе працоўную энэргію земляроба. Агранічэньні ў гэтай галіне павінны наступаць самі сабою, у меру разьвіцьця гаспадарчага поступу і ў меру дабравольнага пераходу сялянства на арцельнае гаспадараваньне, што можа наглядацца толькі тады, калі сяляне перакаяюц-

ца ў перавазе гэтага апошняга над індывідуалістычным.

Зрэштаю, і сама працоўная дзяржава павінна прыйсьці землеробству з сур,ёзнаю матэрыяльнаю, паказова—дасьведчальнаю і культурна—прасьветнаю дапамогаю, у выніку каторай дадатнія бакі коопэратыўнай формы гаспадараваньня выявяцца з поўнаю дакладнасьцю. Пры існуючых умовах гэтай помачы мы ня бачым.

Да сёньняшняга дня сялянства зьяўляецца толькі аб'ектам жорсткай эксплёатацыі, як збоку дзяржавы, так і з боку ліхвярскага і гандлёвага капіталу.

Распаўсюджаньне на вёсцы новых формаў жыцьця павінна ісьці паступова, па добра распрацаванаму пляну, а да таго пры адпаведнай пераарганізацыі самай дзяржаўнай улады, дзе рашучы голас будуць мець самі працоўныя сяляне, а не розныя гегемоны ў пастаці, напрыклад, абшарнікаў, як гэта наглядаецца ў нас, ці то „авангарду“ рабочай клясы—камуністычнай партыі, як гэта мы бачым у Саветах.

Мы пэўны, што пры такіх абставінах вясковае жыхарства хутка ператварылася-б у цывілізаваных коопэратараў, а само жыцьцё прыняло-б зусім іншы выгляд, адменны ад сучаснага.

Соцыялізм на вёсцы гэта ня ёсьць тая „клясавая“ барацьба, якую па тактычным меркаваньням распальваюць савецкія камуністы, штучна падзяліўшы сялян на варожыя лагеры.

Там гэтая барацьба патрэбна толькі да таго, каб камуністычная партыя мацней магла трымацца на сваіх кіруючых становішчах.

Мы ў гэтакай барацьбе не зацікаўлены. Уважаем, што нашая вёска, за малымі выняткамі, уяўляе з сябе адзіную працоўную сямью, якая ў будучыні зможа дружнымі высілкамі ўзяцца за перабудову свайго жыцьця, абыходзючыся без узаімнага насільства і ненавісьці.

Соцыялістычны лад не павінен быць пугалам для сялянскіх масаў,а павінен, паступова апаноўваючы вясковае жыцьцё, выклікаць да сябе зацікаўленьне і сымпатыі.

Пры гэтым усім трэба памятаць толькі адно, што „не праз адну стадыю разьвіцьця пераскочыць немагчыма“. Усё павінна рабіцца паступова і плянова. Кожная рэформа мусіць быць падгатаванаю праз папярэднюю працу і толькі тады яна будзе мець дадатныя вынікі.

У гэтых адносінах мы зьяўляемся паступоўцамі і лічым, што толькі паступовымі і прадуманымі мерапрыемствамі зможам удасканаліць вясковае жыцьцё.

Пры іншым падыходзе да справы мы рызыкуем апынуцца ў савецкіх калгасах і камунах...

С. Булат

# МАРКСЫЗМ

Пад марксызмам трэба разумець асобны сьветапагляд, падставы каторага былі заложаны Карлам Марксам яшчэ ў першай палове 19 стагодзьдзя.

Гэты сьветапагляд, апіраючыся на філёзофскім матэрыялізме, дае зусім выразныя і лёгічна пабудаваныя адказы на ўсе пытаньні з сацыяльна-эканамічнай галіны.

Лёгічная стройнасьць ягонай будовы многіх увяла ў блуд што да расцэнкі і вырашэньня гэтых пытаньняў, спрычыніўшыся да колёсальнага палітычнага руху, якому дала тэорэтычнае угрунтаваньне.

І толькі у апошнія гады гэты марксоўскі гіпноз пачынае праходзіць.

Марксызм збанкрутаваў ў практычным засгасаваньні ня толькі ў Саветах, але і ў іншых краёх, страціўшы свой аўторытэт нават сярод тых колаў, каторыя бяскрытычна прыймалі ўсе ягоныя постуляты за бяссумліўныя праўды.

Перадусім, само матэрыялістычнае разуменьне гістарычных падзеяў, каторае ад даўжэйшага часу падлягала моцнаму абстрэлу з боку крытыкаў марксызму, выклікае цяпер вялікі сумліў у самых марксыстаў.

Многія пачынаюць разумець, што гісторыя народаў кіруецца не аднымі толькі эканамічнымі фактарамі, як гэта цьвердзяць ортодоксальныя марксысты, а што побач іх дзеюць іншыя сілы, якія маюць ня меншую, а мо' й большую вагу ад першых.

Марксысты сьведама выкідаюць са сваіх гістарычна філёзафічных разважаньняў такія, напрыклад, дзейнікі як ідэолёгічныя, этнічныя, расавыя і г. п. адводзючы ім другараднае значэньне ў параўнаньні з эканамічнымі.

А між іншым, гістарычнаю навукаю даведзена, што моцныя і ўплывовыя ідэі дзеюць вельмі часта самастойна, аказваючы вялікі

ўплыў на выпрацоўваньне палітычных адносінаў, што, у сваю чаргу, дзее адпаведным способам і на эканамічны бок народнага жыцьця.

Прыпомнім, напрыклад, крыжовыя паходы ў сярэднявеччы, каторыя мелі сваім заданьнем падпарадкаваць хрысьціянскай ідэолёгіі мусульманскі сьвет.

Прыпомнім цэлы рад іншых гістарычных падзеяў, на каторых тут ня будзем затрымліваца і каторыя нам даводзяць, што ў вельмі многіх выпадках моцныя грамадзкія ідэі вядуць за сабою цэлыя народы, зьмяняючы сацыяльна-эканамічную структуру іхняга жыцьця.

Усё гэта марксыстам ведама ня меней ад нас, але чыста матэрыялістычнае тлумачэньне гістарычных зьявішчаў патрэбна ім для замацаваньня сваёй уласнай грамадзкай і палітычнай ідэолёгіі, пры дапамозе каторай яны маюцца перабудаваць сьвет.

Перадусім, ім залежыць на тым, каб убіўшы ў галавы працоўных масаў сваю матэрыялістычную ідэолёгію пераканаць іх, што людзкасьць ня мае іншых мэтаў акрамя чыста матэрыяльных і што сама яна ўяўляе з сябе некую зьверападобную масу, падзеляную на клясы, каторыя павінны вечна паміж сабою грызьціся і ў гэтай грызьні марксысты (як сацыялісты так і камуністы) бачаць галоўны „мотар“ прагрэсу.

„Гісторыя“—кажуць яны: гэта ёсьць гісторыя барацьбы клясаў.

Прызнаючы клясавую барацьбу як факт, каторы запраўды наглядаўся ў працягу вякоў і каторы асягнуў бадай ці не найвялікшага напружаньня ў апошнім стагодзьдзі, мы, аднак, ня можам яго лічыць за галоўны дзейнік, кіруючы гісторыяю людзкай грамады.

Мы лічым, што акрамя барацьбы клясаў, якая фактычна, зьяўляецца параўнаўча дробным зьявішчам, ёсьць іншыя сілы, дзеючыя ў працілеглым напрамку, кансалідуючыя людзкія грамады і ў сваёй суцэльнасьці запраўды даючыя напрамак гістарычным падзеям.

Сюды, напрыклад, можна аднесьці расавую і нацыянальную салідарнасьць, як сілу, каторая з асаблівай яскравасьцю выяўляецца падчас агульнай небясьпекі, пагражаючай усяму народу ў цэлым. Вельмі характэрны прыклад ў гэтых адносінах даюць жыды, у каторых як ведама, клясавыя працілегласьці бляднеюць перад расаваю салідарнасьцю. Жыдоўскі народ у працягу вякоў выступае на гістарычнай відоўні, у першую чаргу як скансалідаваная нацыянальная маса, усе клясы каторай дзеюць салідарна ўва ўсіх тых выпадках, дзе таго патрабуюць абставіны.

Другім ня менш яскравым прыкладам зьяўляюцца немцы, каторыя пры наяўнасьці агульнай небясьпекі выявілі ў апошнія часы надзвычайную здольнасьць у справе нацыянальнай кансалідацыі.

Гэта наглядалася ў 1914 г. калі ўсе немцы бяз розьніцы клясаў і партыяў приступілі да салідарнай абароны сваёй бацькаўшчыны.

Тое самае мы бачым цяпер, за часоў Гітлера, калі ўвесь народ аб'яднаўся каля сваяго нацыянальнага павадыра ў абліччы вялікай небясьпекі, якая пагражала яму з боку камунізму.

Падобнага роду прыкладаў, каторых можна было-б прывесьці бязлікую колькасьць з гісторыі кожнага народу, будзе даволі, каб уявіць сабе, што акрамя клясавай барацьбы існуе яшчэ й нацыянальная салідарнасьць пра каторую марксысты стараюцца не ўспамінаць. У сусьветнай гісторыі нароўні з элемэнтамі нацыянальнай і грамадзкай салідарнасьці наглядаецца і жорсткая барацьба. Змагаюцца паміж сабою ня толькі паасобныя клясы ўнутры пэўнай нацыі, але змагаюцца цэлыя народы і гэта апошняе адыгрывае таксама вялікую роль у гістарычных падзеях.

Гісторыя людзкасьці дае нам бязлікую, колькасьць прыкладаў, з якіх мы можам даведацца, што ў выніку гэткай барацьбы зьмятаюцца з твару зямлі цэлыя народы разам з іхняю культураю і ўсімі клясамі. Марксысты, зьвяртаючы вялікую ўвагу выключна на барацьбу клясаў і распальваючы яе ў сусьветным маштабе, фактычна, імкнуцца да раскладу народаў.

Яны ўносяць у людзкую грамаду элемэнт вечнай барацьбы і ў гэтакі спосаб расчышчаюць грунт для захапленьня ўлады.

Але мы, акрамя ўсяго іншага, мусім мець на ўвазе, што падчас усеагульнай клясавай барацьбы звычайна выплываюць на гістарычную сцэну больш арганізаваныя і нацыянальна-скансалідаваныя сілы, каторыя карыстаючыся з анархіі, вельмі лёгка могуць падпарадкаваць сабе разложаныя народы.

Клясавая барацьба, каторая распальваецца марксыстамі, у сваім выніку вядзе да ўлады

часткі працоўных, гарадзкога пролетарыяту, над усімі іншымі, а ў канчальным разрахунку, да ўстанаўленьня дыктатуры камуністычнай партыі.

Не затрымліваючыся на іншых ад'ёмных бакох марксоўскай тэорыі, мы мусім прызнаць, што яна абсалютна памылковая і нідзе ня можа быць застасаванаю, а перадусім у аграрных краёх, дзе галоўнаю масаю насельніцтва ёсьць дробнае сялянства.

Марксоўскія палітыкі нават у гэтым серадовішчы, даведзяным (як напр. на нашых землях) сучасным крызысам амаль да жабрацкай торбы, стараюцца знайсьці грунт для клясавай барацьбы, вышукваючы тут багачоў і беднякоў.

Роб.цца гэта выключна з той мэтай, каб стаць на перашкодзе да агульна беларускай нацыянальнай кансалідацыі, якая ім вельмі нявыгодна.

Нацыянальна-сьведамае сялянства, ўліўшаеся ў свае нацыянальныя арганізацыі, выявіла-б такую сілу, каторая бяссумліўна заважыла-б на лёсах нашага краю і адапхнула-б у далёкі кут камуністычных апякуноў.

Пры сучасным стане, у якім апынуўся беларускі народ на гэты і на той бок Рыскай мяжы, трэба думаць не пра клясавую барацьбу, а пра ягонае нацыянальнае ўзгадаваньне і вызваленьне.

Ня можна запамінаць і тае сумнай акалічнасьці, што толькі дзякуючы слабай нацыянальнай сьведамасьці беларускага народу— ён жорстка экплёатуецца іншымі народамі як палітычна, так і эканамічна.

Разглядаючы справу зусім бясстаронна, кідаецца ў вочы, што галоўнымі тварцамі марксызму і галоўнымі яго праваднікамі, зьяўляюцца жыды — Маркс, Энгельс, Каўцкі Бэрнштэйн і цэлы рад іншых.

На нашым грунце мы таксама бачым жыдоў сярод гарачых прыхільнікаў гэтай тэорыі.

Падобнае зьявішча ня можа быць залічана да выпадковых.

Жыды вытварылі тэорыю, застасаваньне каторай прывяло-б да такога стану рэчаў калі гэты народ, як найбольш сарганізаваны ў сусьветным маштабе і скансалідаваны нацыянальна, адыгрываў-бы ў сьвеце першую скрыпку.

Адкідаючы марксоўскую тэорыю як невытрымоўваючую сур'ёзнай крытыкі і шкодную для беларускага народу, мы будзем вясьці з ёю барацьбу, узмацняючы нацыянальны фронт і грамадзкую салідарнасьць усіх працоўных, бяз розьніцы „клясаў“...

**Т. Асавецкі**

# ШТО НАС УРАТУЕ

Нацыя ёсьць вытварам фізычнага і духовага змаганьня людзкай грамады на фоне эканамічных і псыхалягічных рожніцаў у межах сваей расы, якая зноў ёсьць вытварам кліматычных абставінаў. Здаецца няма выпадку каб без змаганьня стварылася якая — небудзь незалежная нацыя.

Змаганьне Полаччыны палажыла падваліны да тварэньня Беларускай нацыі.

Пасьля на працягу стагодзьдзяў Беларускі народ, дзякуючы свайму пацыфізму, ня выплыў на палітычную арэну як цалком самастойная пануючая нацыя. Гэтая пацыфістычная мляўкасьць беларускага народу і здрада ягоных вярхоў не пазваляла стварыць незалежнасьці, нават у спрыяючыя на гэта часы.

Сяньня беларускі народ увайшоў у эпоху жывейшага змаганьня за адраджэньне скансалідаванай незалежнай нацыі.

Абставіны сучаснай эпохі змушаюць вясьці барацьбу на два фронты: нацыянальны і соцыялістычны.

Кліч нацыянальнага фронту — незалежнасьць, непадзельнасьць—гэта кліч не здэгенэраванага пацыфізму, а кліч здаровай, прыроднай барацьбы за нацыянальнае жыцьцё, за сваё існаваньне.

Кліч соцыялістычнага фронту—палешыць жыцьцё, даць дабрабыт усяму беларускаму народу.

На нацыянальны фронт беларусы павінны скіраваць галоўныя сілы, бо тут мы адны. Саюзьнікаў тут ня маем.

Калі якія ёсьць, дык з матываў ня безкарысных.

На другім фронце соцыялістычным, супроць—капіталістычным змагаецца пролетарыят усяго сьвету.

Пасколькі пабеда на нацыянальным фронце памагла-бы зьдзейсьніць, ува ўнутраным абсягу, соцыялістычныя дамаганьні, пастолькі пабеда толькі на фронце соцыялістычным магла-бы не памагчы а мо' нават

і пашкодзіла-б нацыянальным нашым ідэалам.

Справа ў тым, што соцыялісты моцна скансалідаваных нацыянальна народаў, прыняўшы навуку Маркса, уважаюць нацыянальную барацьбу за лішнюю, амаль за шкодную, ведаючы, што гэтая барацьба народу нацыянальна сільнаму, высока культурнаму ёсьць не патрэбнай.

І слушна. Такі народ, нават у сусьветнай соцыялістычнай фэдэрацыі, патрапіў-бы захаваць сваё нацыянальнае аблічча і нават яго мог-бы накідаць народам нацыянальна слабейшым, або проста захопліваць іх сваей культурай.

Што іншае народы культурна слабыя, або горш яшчэ, нацыянальна мала сьведамыя, як беларусы. Такія народы ў сусьветнай соцыялістычнай дзяржаве нацыянальна заглохлі-б, памерлі-б. Бо культура нацыянальна сільных народаў будзе сілай асымілюючай.

Сказ, што соцыялізм выключае нацыяналізм, ёсьць карысны кожнаму сільнаму, сьведамаму сваіх мэтаў народу, які не баіцца асыміляцыі, бо ведае, што толькі ён будзе сілай прыцягваючай, сілай асымілюючай, самжа ня будзе ўгнаеньням для сільнейшых.

Беларускаму народу ёсьць, пакуль што, некарыснымі міжнародныя марксоўскія ідэі, бо ён яшчэ ня ёсьць нацыянальна сільным. Гэта яшчэ масэ, з якой пры добрых абставінах можна ўляпіць якую хочаш жвігуру.

Карміўшы свой народ ідэямі міжнароднага соцыялізму, мы не паднімем яго на педэстал нацыянальнай гордасьці. А ў міжнародным пролетарскім моры беларускія масы згубілі-б свой нацыянальны твар. Міжнароднасьць соцыялізму карысна народу з магутнымі нацыянальнымі традыцыямі, з сільным расова-нацыянальным духам.

Возьмем, напрыклад, стасункова малы народ, але шавіністычны, нацыянальна амбітны і прагавіты ў сваіх імкненьнях — народ жыдоўскі. Міжнароднасьць соцыялізму, змагаючага нацыяналізм яму ёсьць карысным Гэты народ настолькі духова сільны, скансэлідаваны, што праз тысячы гадоў не паддаўся і не паддаецца асыміляцыі, ды нават яшчэ мае амбітныя рэлігійна—талмудычныя ідэі панаваць над усім сьветам.

Трэба прызнаць, што ў некатарых галінах уплыў жыдоўскага духа ўжо адчуваецца ў вялікай частцы сьвета. Напрыклад, яны далі ўсяму хрысьціянскаму сьвету сваю фантастычна—гістарычна — рэлігійную біблію, якая цалком прынята хрысьціянамі, каторыя на аснове яе і дамешкі паганскай грэка —

---

# Praćchnisia, biełarusie!

Praćchnisia, biełarusie!

Zwali z siabie wiakowuju, manoj sašytuju dziaruhu.

Strasi stahodni pył, što zaściłaje twaje wočy

Padnimisia!

Hlań na swajo, lichaziellem parosšaje pole. Hlań i pasłuchaj, jak prahawita dziarucca susiedzi, što karystajučy snom twaim, haruć abłudaj twaju Ziamlicu i zasiawajuć manoj twaje rodnyja honi.

Pasłuchaj!

Jakim strachaćciom adčuwajecca rohat, sytych twajej ciemnatoju susiedziaŭ...

Dzieci twaje płačuć.

Płačuć nad swajej niadolaj, pieściać mazalami swaju Rodnuju Ziamlicu i prosiać kab dała im kusočak čornaha chleba.

Jana—Ziamlica—sama ŭ niadoli.

Na jaje pasiahajuć prahawityja ruki čužyncaŭ, i zasiawajuć ziarniaty pahana-manliwaj zdrady.

Dyk ustań haspadaru!

Ustań, bracie!

Pamažy pracawać tym, što praćchnulisia, bo prahawityja susiedzi śmiajucca, što nas mała na rodnych honiach, što my nia ŭmiejem, što nia zdolny haspadaryć na swajej Ziamielcy.

Praćchnisia, biełarusie!

Zwali z siabie kamień ciamnoty. Hlań zrokam wolnych pradziedaŭ — wołataŭ, zrokam, pranikajučym u tajnicy ruinaŭ, raskrywajučym ahidu stahodździaŭ, zahladajučym u kurhany, raskidanyja pa ŭsiej našaj Ziamlicy.

Hlań wokam arlinym!

Wokam, što nia spluščycca ad manliwaha blisku šlachocka-panskaj sprawiadliwaści.

Idzi!

Hary i zasiawaj potam ablitaje pole. Pracuj i śpiawaj wolnyja pieśni.

Śpiawaj!

Kab zašumieli recham swabody bełaruskija nieprachodnyja pušču; kab uściešylisia raskidanyja pa kurhanoch biełaruskaj Ziamlicy pradziedaŭ kości.

I zasiawaj swaje honi!

Zasiawaj ziarniom sprawiadliwaści, kab jano wyrasła i zahłušyła manu; kab prakarmiła twaich pracoŭnych unukaŭ i dało im siłu i biespraryŭnuju badziorać, kab jany nikoli nie zasnuli, a ciahnuli začatuju taboj wolnuju pracoŭnuju, adradżenskuju biełaruskuju pieśniu

**Kazłoŭščyk.**



рымскай філёзофіі стварылі свой сьветапагляд.

Цікаўна, што хрысьціянства ідэнтычна з імкненьнем жыдоўскай рэлігіі, імкнецца запанаваць над усім сьветам. Гэтае імкненьне хрысьціяне ўзялі ад жыдоў, якія лічаць сябе выбраным Богам народам. Яшчэ цікаўней, што самыя хрысьціяне не запярэчваюць гэнай жыдоўскай выбранасьці, толькі гавораць, што ад сьмерні Хрыста гэтая выбранасьць з жыдоў перайшла на хрысьціян.

Толькі такія размашыстыя нацыянальныя амбіцыі жыдоў, якія лічаць, што сьвет створаны для іх і дзякуючы ім толькі іншыя народы могуць карыстаць гэтым сьветам—даюць такую жывучую сілу гэтаму народу. Яны ведаюць сваю нацыянальную місію, сваю мэту.

Жыды—гэта прыгожы прыклад нацыяналізму, сумеўшага супроцьставіцца ўсякай асыміляцыі.

Гэтаму народу інтэрнацыяналізм ёсьць карысным і жыды гэта разумеюць і больш ад іншых народаў імкнуцца да міжнароднасьці.

Гэта заўважыў і пахваліў, яшчэ перад сусьветнай вайной, сам Ленін. Калі ганячы рэакцыйнасьць жыдоў у адсталых усходніх краёх, хваліў жыдоў захаду гэткімі славамі: „Другая палавіна жыве ў цывілізаваным сьвеце, і там няма каставай абмяжованасьці жыдоўства. Там выявіліся ясна вялікія сусьветныя прогрэсыўныя рысы ў жыдоўскай культуры, яе інтэрнацыяналізм, яе адгуклівасьць на перадавы рух эпохі (процант жыдоў у дэмократычным і пролетарскім руху ўсюды вышэй за процант жыдоў у насяленьні наагул). (Ленін. Аб нацыянальным пытаньні стр. 55.)

Са слоў самага Леніна ясна відаць, як жыды разумеюць карыснасьць для іх міжнароднага соцыялістычнага руху і дзеля гэтага ахвотна ўліваюцца ў яго.

Што іншае народ не амбітны нацыянальна, мляўкі, або яшчэ горш, нясьведамы, як беларусы. Такому народу трэба быць надта асьцярожным, каб не разьліцца ў сусьветным моры сільных народаў. Беларускі народ у сваей даволі вялікяй масе, можна сказаць нацыянальна сьпіць, прадстаўляе нясьведамую масу, якую з прагавітасьцяй хочуць асыміляваць суседнія народы.

У Міжнародным соцыялізьме ён нацыянальна заглох-бы, не адзыскаў-бы свайго нацыянальнага „Я“.

(працяг будзе)

Беларусы, не шукайма, што нас дзеліць, але—што лучыць!

# Tam, dzie budujecca „biełaruski dom“

Badaj ci warta dawodzić, što toj narod jaki maje najbolšy pracent adukawanych, tym samym atrymliwaje pierawahu nad inšymi, pazbaŭlenymi mahčymaści zdabyćcia nawuki.

Cikaŭnuja reču wyjaŭlajucca, miž inšym na Sawieckaj Biełarusi, dzie, jak zapeŭniwaje b. prawadyr Hramady B. Taraškiewič „budujecca biełaruski dom.“ Akazwajecca, što jakraz tam biełarusy što da nawuki apynulisia kudy ŭ horšych abstawinach, čymsia, naprykład, žydy i tamu nam zdajecca, što kali kamunisty i budyjuć nieki „dom“ dyk ni ŭ jakim wypadku nie biełaruski.

Woś što kažuć nam sawieckija statystyčnyja dadzienyja adnosna cikawiačaj nas sprawy, jakija my znachodzim u N. 4 mienskaj časopisi „Połymia“ za 1925 h. Hetak, napr. u dziaržaŭnym uniwersytecie ŭ 1924/25 h. było, studentaŭ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| biełarusaŭ | 1025 | ci | 41% |
| žydoŭ | 1265 | „ | 51% |
| rasiejcaŭ | 165 | „ | 6% |
| palakoŭ | 12 | „ | 0,5% |
| inšych | 26 | „ | 1% |

Ražam studentaŭ 2493

U Mienskim „rabfaku“ ŭ toj samy čas było:

| | | | |
|---|---|---|---|
| biełarusaŭ | 196 | ci | 52% |
| žydoŭ | 156 | „ | 42% |
| inšych | — | „ | 6% |

U Aršanskim rabfaku:

| | | | |
|---|---|---|---|
| biełarusaŭ | 100 čał. | ci | 35% |
| žydoŭ | 123 — | „ | 44% |

Kab bolš dakładna ŭjawić sabie zapraŭdny charaktar hetaha „domu“ padamo jašče takoje paraŭnańnie. Usiaho na Sawieckaj Biełarusi naličwałasia ŭ tym-ža sprawazdaŭčym hodzie 40 dziciačych sadkoŭ, z jdkich biełaruskich

Беларусы злучайцеся!

było 11, żydoŭskich 21, rasiejskich 6 i polskich 2.

Razhladajučy hetyja dadzienyja treba nie zapaminać i taho, što żydoŭ naličwajeca ŭ Sawieckaj Biełarusi ŭsiaro tolki ad 6 da 9 $^1/_2$ proc.

Wyhladaje na toje, što Sawieckaja Biełaruś tracić biełaruski charaktar, uziaŭšy pad uwahu systematyčnaje pawialičeńnie żydoŭskich adukawanych siłaŭ.

Na asłableńnie biełaruskaści ŭsch.—biełaruskich ziemlaŭ u značnaj miery ŭpływaje i toje wysialeńnie nac.—świedamaha elementu, jakoje tam nahladajecca.

Hetak, naprykład, da 1 studzienia 1926 h. u adnu tolki Sibir wyjechała 32600 biełarusoŭ u toj čas jak tudy nia wyjechała ani wodnaha żyda.

Hazety pawiedamlajuć, što wysialeńnie nacyjanalna-świedamaha biełaruskaha elementu nia spyniajecca i da siońniašniaha dnia i što na miejsca biełarusaŭ sawiecki ŭrad razsialaje inšyja narodnaści.

Tak pryblizna wyhladajuć sprawy ŭ tym samym „biełaruskim" domie, katorym tak zachopliwajucca našyja palityčnyja niedaraśli.

**J. K**

---

**Супроць чужога і свайго капіталізму—свой соцыялізм!**

---

# Nacyjanalny duch prabudżajecca

Biełaruskaja i polskaja wilenskaja presa niadaŭna pisała, što ŭ Sawieckaj Biełarusi nacyjanalny ruch pryniaŭ ahramadnyja raźmiery.

U suwiazi z hetym Cantralny Kamitet Biełaruskaj Kamunistyčnaj partyi sklikaŭ nadzwyčajny źjezd, na jakim hetuju sprawu abhawarywali. Na źjeździe wystupali z pramowami polskija kamunisty: Dombal, Jasieński, Łańcucki, Piatroŭski i biełaruskija: Rak-Michajłoŭski, Taraškiewič i Koŭšyc.

Źjezd wynias rezalucyju, jakoj klajmiaoca sympatyki biełaruskaha nacyjanalizmu, uważajučy što ŭ hetym jość najbolšaja niebiaśpieka dla balšawickaha ładu na Biełarusi—i pastanawiŭ pryniać rašučyja miery suproć usich, chto padtrymliwaje biełaruski nacyjanalizm.

Što Dombalam, Łańcuckim i inšym palakam nie padabajeca nacyjanalnaje prabudżeńnie biełaruskaha narodu—heta my razumiejem, bo-ż jany tam šukajuć kojdanaŭskich polskich rejonaŭ u centry Biełarusi, tworać abjazdny polski teatr dla apalaćwańnia biełarusaŭ katalikoŭ, jakich zhodna z polskaj endecyjaj, ličać za palakaŭ.

Ale trudna zrazumieć byłych hramadaŭcaŭ Taraškiewiča i Pak-Michajłoŭskaha, pieradusim pieršaha, u katorym nawat niekataryja wilenskija biełarusy chacieli bačyć biełaruskaha Handi.

Jak-by tam nia było, nia ŭdasca maskoŭska-polskim imknieńniam zatrymać pryrodnaje abudżeńnie nacyjanalnaj dušy biełaruskaha narodu.

---

**Супроць чужога нацыяналізму — свой нацыяналізм!**

---

# PRATEST

Suproć niawoli, ździeku, abłudy,
Stohnu pry ścienkach—stralnicach;
Suproć biazpraŭja, što hnie usiudy,
Jenku u lochach—wiaźnicach;
Suproć tych żałbaŭ, što ŭ wioskach čuju—
Ja pratastuju!

Chaj kryk zbaleły, što z serca rwiecca,
Chmarami nieba zakryje;
Chaj złydniam hromam ŭ sumleńni bjecca,
Wichrami, buraj zawyje;
Chaj ŭ dušach ludzkich buntam bušuje.
Chaj pratastuje!

Pratest kidaju z dušy zbalełaj
Prosta tym złydniam u wočy,
Što ŭ prahawitaści ašalełaj
Zniščyć nas wielmi achwočy;
Što abśmiawajuć sprawu światuju —
Ja pratastuju!

Kali pamru, dyk moj duch paŭstanie,
Ziemlu pratestam zapalić;
Małankaj złydniam u wočy hlanie,
Hromam usich ich pawalić.
Panad Krainaj budzie lataci—
Pratastawaci.

U ciomnych lochach, pry šybienicach
Maraj u wočy jon stanie
I z dzikaj buraj, i ŭ nawalnicach
Złydniam u wočy zahlanie,
Ichnia sumleńnie kab katawaci—
Pratastawaci.

Pratest kidaju z miljonaŭ sercaŭ,
Wiečna što cierpiać niaŭzhodu,
I z tych miljonaŭ, što ŭ paniawiercy,
Z rospačy, jenku narodu,
Jakoha muki ja ŭ sercy čuju,
Dyk pratastuju!

**Kazłoŭščyk**

---

Рэдактар-Выдавец Ул. Казлоўскі

Галоўны рэд.: Рэдакцыйная калегія·

Drukarnia J. Bajewskiego, Wilno Tatarska 13.

